Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada

КАМУНІКАТ нр 7 (61 ад 1990), ЖНІВЕНЬ, 2001.

---

# ЭТНІЧНАЕ ПАХОДЖАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ*

**БАЛЦКІ СУБСТРАТ.** На падставе фактаў з галіны археалёгії, этнаграфіі, лінгвістыкі, тапаніміkі, антрапалёгіі расейскі вучоны Валеры Седов апублікаваў у 1970 годзе ў Маскве манаграфію на тэму этнічнага паходжаньня беларусаў, у якой выказвае такую думку: На пачатку, тэрыторыя Белатрусі была заселена балтамі - балцкімі плямёнамі, якія жылі ўжо там амаль праз два тысячагжодзьдзі. Каля шостага стагодзьдзя нашае эры, на заселеную балцкімі плямёнамі, тэрыторыю пачалі прыходзіць славяне. Працэс гэты быў павольны й мірны. Малыя балцкія аселішчы ў раёне верхняга Дняпра ня мелі палітычнай і вайсковай арганізацыі, таму славяне маглі свабодна пранікаць у глыб раёну. У рэзультаце ўсходне-балцкія аселішчы ў канцы першага тысячыгодзьдя апынуліся сярод славян. Асыміляцыя балтаў, паводле Седова, была прысьпешана тым, што іхні балцкі дыялект быў падобная да мовы славян, якія да іх прыйшлі. Седов заключае, што продкі беларусаў у роўнай меры ёсьць нозьбітамі мовы, новапрыбылых ў раён верхняга Днепра й верхняй Дзьвіны славян, як і балцкага дыялекту насельніцтва, што пражывала там ужо праз блізу два тысячыгодзьдзі.

Погляды В. Седова, апублікаваны ў 1970 годзе ў Маскве разглядаліся партыйумі дзейнікамі й партыйнымі гісторыкамі ў Менску, як гэрэзыя - як тэорыя «слугаў амэрыканскага імпэрыялізму». Паводле абавязваючай ад часоў Сталіна ў Савецкім Саюзе догмы ўсходне-славянскія народы - расейцы, украінцы й беларусы - паходзяць з аднаго стара-расейскага корачня .

Паняцьце «балцкі субстрат» беларускага народу абазначае не ўплыў балцкай культуры на беларускую, як гэта паясьняюць і сяньня яшчэ некаторыя беларускія пісьменьнікі, а балцкія карэньні паходжаньня беларускага народу.

Балцкі субстрат, ад лацінскага слова **"substratum"**, беларускага народу абазначае **самы ніжні пласт - карэньні** этнагенэзы беларускага народу. Інакш кажучы, карэньні паходжаньня беларускага народу балцкія, а не стара-расейскія, як цьвердзіць савецкая, імпэрская гістарыяграфія.

* * *

Тэму этнагенэзы расейскага народу парушае ў артыкулке «Генэтыка працуе на Беларусь» («Наша Слова» #8 (496), люты 2001 г.) А. Блінкоўскі. Ягоны артыкул для вашай пілнай увагі падаем у цэласьці на наступных бачынах. Камунікату.



---

54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

## ДА НАС ПІШУЦЬ ЗЬ МЕНСКУ ПРА 3-ці ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ:

«Вельмі нэрвовым быў час перад зьездам. Ці не да апошняга дня ня ведалі, у якім памешканьні дазволяць праводзіць зьезд. Ня ведалі, ці ўсім дэлегатам дадуць візы, Таму ня было на зьезьдзе Янкі Жучкі (з Бэльгіі) , а а. Аляксандар адмовіўся прыехахь. На зьезьдзе былі рэпрэзэнтаваны 70 беларускіх супалак з 20-ці краін сьвету. У дакладах і выступах шмат гаварылі пра сёньняшняе эканамічнае й палітычнае становішча Беларусі, паняверку беларускай мовы, кульытуры, зьняважлівыя адносіны да дыяспары . Але ўсё гэта ў спакойным тоне, з канструктыўнымі прапановамі. Не было таго запальнага пратэсту, як у 1997 г. на 2-м зьезьдзе ЗБС, калі па ўсёй залі луналі бел-чырвона-белыя сьцягі і раз-пораз гучэла: «Ганьба!». Тады была вялікая тэатральная заля, было шмат нашай моладзі, якая й стварала такі настрой. Зараз у Доме літаратара, заля на якіх 400 месцаў, нікога «лішняга» не прапускалі.... Тады ў 1997 г. на пачаыку гучэла «Магутны Божа», зараз - новы гімн ЗБС «Бацькаўшчына» , ствотаны на аснове мэлёдыяў «Полацкага сшытку»(?) (17-ае стагодзьдзе). Хораша, але....

Мяне вельмі ўсхваляваў выступ спн. Лёлі Міхалюк зь Вялікабрытаніі (старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі), яна хораша ўспомніўка Вінцука Жук-Грышкевіча як заснавальніка беларускага руху на эміграцыі. Было й адно прамаскоўскае выступленьне дзядзечкі, які хоць і быў у цывільным, вельмі ж нагадваў вайсковай выпраўкай чалавека з «органаў». Яго асуджальна «зашыкалі».

Пра новы склад «Вялкіай Рады» (ЗБС «Бацькаўшына) Вам мусіць расказвалі. Я толькі зазначу, што замест Ганны Сурмач, якая эмігравала ў Чэхію, абралі маладую, энэргіную Алену Макоўскую, замест Радзіма Гарэцкага - Анатоля Грыцкевіча, ведамага гісторыка й шчырага суроджэнца. Была прынятая рэзалюцыя «Аб падтрымцы Міжнароднага грамадзкага аб'еднаньня Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і кансалідацыі беларускай дыяспары». Прынятая Праграма «Замежная беларуская супольнасьць ў 21 стагодзьдзі».

Зараз перажываем драмтычныя калізіі «прэзыдэнцкага маратону». ...»

**Рагнеда А.**

У 1993 годзе Згуртаваньне Беларусаў Канады, сявра ЗБС «Бяцькаўшчына», пад страшынствам Міколы Ганька арганізавала паездку на 1-шы Зьезд беларусаў сьвету, і ў ім з Канады брала ўдзел кільканаццаць асоб. Старшыні ККБК і ЗБК былі абраны ў Вялікую Рады ЗБС «Бацькаўшчына». Усе беларускія арганізацыі Канады павінны быць, і дагэтуль былі, актыўнымі сябрамі ЗБС «Бацькаўшчына». Актыўнасьць палягала на карэспандаваньні з кіраўніцтвам ЗБС «Б», высыланьніі ўпаўнаважаньняў на паседжаньні Рады, высыланьні дакладаў на канфарэнцыі, ладжаныя ЗБС «Б». У 1996 годзе: «Культура беларускага замежжа - Канада», у 1998 на канфарэнцыю ў Берасьці - «Культура беларуска-польскага сумежжа», у верасьні, 2000 году - «Творы ўздыму людзкога духу й творчай энэргіі - праявы цывілізацыі». Даклады высылала ККБК. А ЗБК пад старшынствам Надзеі Дробіна на пачатку 2001 году выслала на праводжаньне 3-га зьезду ЗБС «Б» ахвяру ў суме 300.00 даляраў.

## 13-ае паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа й помніка Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі

Адбылося ў суботу, 28 ліпеня, 2001 г. Арганізавала яго старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) Надзея Дробіна. Як і належыцца, традыцыю штагодніх паломніцтваў да беларускага «шрайну»-сьвятога мейсца, у 21-м стагодзьдзі пераняла новая беларуская эміграцыя ў Канаду, новае пакаленьне, якому й належыць 21-е стагодзьдзе.

Паломнікі прыехалі да Беларускага Крыжа каля 11-ай раніцы двома вялікімі самаходамі з Таронта. Мужчыны ўставілі абапал помнікаў вялікія бел-чырвона-белы й канадыйскі сьцягі, жанчыны разлажылі ля помоніка Пакутнікам Беларусі кветкі. Ахінулі Крыж, як ногі Ісуса Хрыста, шырокім слуцкім паяспм, дарававым у часе 6-га паломніцтва ў 1994 годзе Ганнай Сурмач зь Менску.

З павагйай, набажэнствам і бел-чырвона-белым сьцягам у руках паломнікі сталі перад Пачэсным Крыжам Ісуса Хрыста выслухаць чытаныя Сьвятаром маліты за Беларусь,за беларускіх Пакутнікаў, за памерлых паломнікаў 20-га стагопдзьдзя, прасілі бяз слоў Бога-Ісуса Хрыста, каб памопг маладому пакаленьню прадаўжаць у 21-м стагодзьдзі традыцыю паломніцтваў да Беларускага Крыжа ў Канадзе.

Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларуісаў Канады (ККБК) Раіса Жук-Грышкевіч падзякавала Айцу й усім паломнікам, сярод якіх былі зусім нядаўна прыбыўшыя ў Таронта спадарства Вячаслаў і Віялета Кавалёвыя з двома раскошнымі малымі дачушкамі, якія як птушачкі шчабяталі пабеларуску; падзякавала арганізатарам паломніцтва: Старшыні ЗБК Надзеі Дробіна, заступніку старшыні Ігару Цітаўцу й сябру Галоўнай Управы ЗБК Зьмітру Ельяшэвічу ды пажадала ўдачаў у працягваньні традыцыі штагодніх паломніцтваў.

Тады расказала **Гісторыю паўстаньня беларускага «шрайну» у Канадзе.** На 1988 год прыпадало тысячыгодзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. У 1987-89 гадох старшынёй ЗБК была Раіса Жук-Грышкевіч. ЗБК, як і ўсё беларускае грамадзтва Канады павінна было адзначыць эпаховы юбілей трывала, каб сьлед прысутнасьці беларусаў у Канадзе, на долю якіх прыпала адзвначыць тысячныя ўгодкі хрысьціянства ў Беларусі, захаваўся нашчадкам і на далейшыя стагодзьдзі. Цывілізавананыя людзі, грамадзтвы, ведаюць пра сваю прошласьць і думаюць пра будучыню. Паўстала думка, паставіць беларускі помнік у афіцыйным мейсцы ў Прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнукаў у Мідлянд, што напоўнач ад Таронта. Стараньні аб дазвол на гэта пачалі мы ў 1987 годзе, а дазвол атрымалімы ў студзені 1988 году. Плянавалі арганізаваць у гэтым годзе Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэкрыі ў Тарпонта, каб у часе яе пры ўдзелі вялікай колькасьці беларусаў адбылося ўрачыстае асьвячэньне Беларускага памятнага Крыжа. На

беларусаў з Аўстраліі, Беласточчыны, Англіі, ЗША й Канады на трэці дзень 18-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, 5 верасьня 1988 году. Урачыстасьці асьвячэньня Беларускага помніка "u Martyrs' Shrine in Midland Ontario" адпраўляў Апостальскі Візытатар для беларусаў замежжа а. Аляксандар Надсон зь Лёндану, Англіі. Апісаньне ўрачыстасьцяў із здымкамі зьмешчана ў кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» на бачынах 713 - 723.

На заканчэньне паломніцтва Старшыня ККБК, прачытала прысьвечаны аьвячэньню Беларускага Крыжа , верш **Натальлі Арсеньневай - КРЫЖ**

Як вокам ськлнуць -
сьцяг пушчаў сініх. . .
За пушчай далеч, яшчэ сіней . ..
А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне. . .
Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў, выкліканых бядой.
прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць каленьні,
сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.
«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу», маліўся хор,
і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай
хіліўся, ветру на перакор.
А вецяр дужаў, кудысь аблокі
зусім павосеньску ўжо плылі.
Маўчала прошча, унізе-ж далёка
сінелі зарасьнікі й палі.
- «Магутны Божа», бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвышм
стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.
Тут - дождж імгненна каменьне сьпляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, у лісьці. . .
Няйначай -
і Нехта дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.

Прошча, 5 верасьня, 1988 год.

Пасьля духовай стравы паломнікі падсілкаваліся, наладзіўшы сабе на траўцы полудзень - па трутэйшаму пікнік. Падарозе ў Таронта затрымаліся мы ў памешканьні Старшыні ККБК у Бэры адсьвяжыцца гарбатай ды пагаманіць аб нашых справах.

А там з Богам! Да наступнага, 14-га паломніцтв, у 2002 годзе!

---

БЭРЫ - ТАРОНТА
ЖНІВЕНЬ, 2001

ДР. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ
СТАРШЫНЯ

# Генэтыка працуе на Беларусь

У апошні год 2-га тысячагоддзя сусветная навука зрабіла прарыў у вывучэнні чалавека – поўнасцю расшыфравала яго генетычны код. У гэтай справе ўдзельнічалі і расейскія вучоныя, якія зрабілі адкрыцці, што павінны быць узяы на ўзбраенне беларусамі для абароны незалежнасці і мовы беларусаў.

Аб адкрыцці расейскіх вучоных (КП в Белоруссии 30.06.2000 г.) паведаміла адна з удзельніц праекту, кандыдат біялагічных навук, супрацоўнік лабараторыі аналізу геному Інстытуту агульнай генэтыкі імя Н. Вавілава – Наталля Барынская. Для нас цікавая гэтая частка яе інтэрвію: *"Еще одно перспективное направление – это палеогеномика. Генетическое разнообразие показывает родство народов друг с другом. В лабаратории Янковского проводились исследования русских, марийцев и татар. Оказалось, что по материнской линии они имеют общих предков в прошлом. Хотя татарский язык относится к тюрской группе, а российский – к славянской"*. Другімі словамі, вучоныя – генэтыкі пацвердзілі вывады вучоных – гісторыкаў аб пераважнай ролі татара-манголаў у фармаванні расейскага народа. Аб гэтым у 20-х гадах XX стагоддзя распавядаў расейскі прафесар Н.С.Трубецкой, адзін із дзеячоў гістарычнай школы "еўразійцаў": *"...Московское государство возникло благодаря татарскому игу. Русский царь явился наследником монгольского хана: "свержение татарского ига" свелось з замене татарского хана православным царем и к перенесению ханской ставки в Москву. Произошло обрусение и опровославливание татарщины и московский царь оказался носителем этой новой формы татарской государственности"*. "Еўразіец" Н.В. расшыфраваў: *"В исторической перспективе то современное государство, которое можно назвать и Россией и СССР, есть часть великой монгольской манархии, основанной Чингисханом"*.

Беларусы адбіліся ў свой час ад татараў. Нават вызвалілі ад татарскага іга украінцаў у 1362 годзе ў бітве пры Сініх Водах. Але потым, ужо ў канцы XVIII стагоддзя, трапілі ў гэтую імперыю, якую акрэслілі "еўразійцы". Цяпер фармальна мы незалежныя ад Расеі, але расейцы зноў хочуць уцягнуць нас у яе. Трэба назапашваць ідэлагічныя аргументы.

Абрусенне татаршчыны ішло ў выніку таго, што качавыя татарскія орды асядалі на славянскіх землях, як, напрыклад, на зямлі Вячка, брата Радзіма на Разанскай зямлі. Касімаўскія татары тут заснавалі г. Касімаў. Хрышчаны хан Касімаўскай арды Сямён Бекбулатавіч атрымаў нават ад Івана IV ярлык "Великий князь всея Руси". Раней маскоўскія валадары ездзілі самі ў сталіцу Арды і вымальвалі для сябе гэты ярлык. Часы змяніліся. Але гэты Сямён Бекбулатавіч, пабыўшы "Великим князем всея Руси", праз два гады адпраўляецца на кармленне ў Цвер і Таржок – пры дапамозе расейскіх цароў прасоўвае сваю арду ў глыбіню славянскіх зямель.

Горад Тула заснаваны і названы ў гонар татарскай царыцы Тайдулы.

Прыблуды Рурыкавічы больш давяралі татарам, чым славянам. Іван III, ідучы рабаваць Ноўгарад, пакідае "управлять землею и стеречь Москву" татарскага царэвіча Муртазу, яшчэ, нават, няхрышчанага. Праваслаўная епархія ў сталіцы Залатой Арды ўжо была.

А. Пушкін, збіраючы матэрыялы на кнігу пра Пятра I, зацікавіўся яго ўказамі: *"Объявить казанским и азовским магометанянам (владельцам крестьян) повеление креститься через полгода, а коли не пожелают, описывать дома и крестьян в казну etc"*. Думаю, што усе "магометаняне" пажадалі стаць праваслаўнымі і рускімі. Куды дзенешся? Ці яшчэ: *"За утайку в переписи мордву и черемис прощать, если окрестятся"*.

Сам Аляксандр Сяргеевіч пісаў у 1830 годзе, праз 450 год пасля Кулікоўскай бітвы: *"... я по горло сыт Москвой и её татарским убожеством"*. Масква ў тыя часы так і засталася татарскім горадам, а не славянскім і не еўрапейскім.

Правячыя вярхі Расеі ўсведамлялі, што яны абрусеўшая і аправаслаўленная татаршчына. Пётр I заснаваў новую сталіцу далей ад Масквы, бліжэй да Еўропы. Кацярына II, каб знішчыць памяць аб татаршчыне, разбурыла сталіцу Залатой Арды – Сарай-Бату, заснаваную яшчэ ханам Батыем. І доўга расейскі генерал ганяў конніцу па тым месцы, каб зраўняць усё з зямлёй. Але ўсё застаецца ў менталітэце і свядомасці народа. Той жа Мітрафанаў (намеснік Жырыноўскага па ЛДПР) абасноўвае нядаўна лозунг: "Вся власть Путину!" тым, што Расея – азіяцкая дзяржава і расейцы – азіяты.

І фактычна расейцы ў умовах дэмакратыі Ельцына адчувалі сябе няўтульна. Пры невялікіх намаганнях Пуціна Расея зразу, паслухмяна перабудоўваецца ў прывычную ёй Арду, каб было ўсё зразумела і проста: хан, мурзы і мурзаценькія – і нікуды ў бок.

Гэта, канешне, іх справа, але трэба, каб яны пакінулі нас у спакоі са сваім "единением". Няхай для "единения" выберуць Кітай. Ён таксама быў часткай імперыі Чынгісхана.

Пасля перапісу насельніцтва 1989 года мяне вельмі ўразілі лічбы дыскрымінацыі беларусаў у Беларусі. На 100000 чалавек насельніцтва Беларусі дактароў навук сярод беларусаў было 6 чалавек, сярод расейцаў – 33 чалавекі, сярод іншых нацыянальнасцяў – 34 чалавекі. Кандыдатаў навук было адпаведна 93, 398 і 296 чалавек. У органах дзяржкіравання ад ліку працаздольных беларусы складалі 3,8%, расейцы – 7,8%, іншыя – 8,2%. Вядома, што расейскія камуністы вельмі кантралявалі гэтыя працэсы. Значыць, праводзілася свядомая дыскрымінацыя беларусаў на сваёй зямлі. Магчыма, гэта адбывалася таму, што не адчувалася славянская салідарнасць, бо яна не магла быць. Цяпер гэтыя хлопцы зноў пяюць лазара – "единение, славяне, русь, православие".

Пагэтаму мы павінны ўзяць на ідэлагічнае ўзбраенне найноўшыя адкрыцці ў палеогеноміцы і разабрацца дэталёва ў тэорыі "еўразійства" расейскіх вучоных – гісторыкаў. Правясці свае даследванні і напісаць сваю гісторыю беларусаў і расейцаў, каб нам суседзі не вешалі лапшыну на вушы. У сваёй гісторыі трэба высветліць, ці мае грунт тэорыя накшталт таго, што татара-мангольская імперыя аб'ектыўна распалася, як імперыя качавых народаў. Але асеўшы і на часцы славянскіх зямель, яны эканамічна ўмацаваліся. Узяўшы на ўзбраенне тэорыі рускасці, славянскасці – у тым ліку і мову праваслаўя, правёўшы змены ў летапісах у пачатку XVI стагоддзя, абгрунтаваўшы "правы" на славянскія землі, на гэтым другім дыханні пачалі новую экспансію на славянскія землі, захапіўшы ў канцы XVIII стагоддзя і Літву-Беларусь. У канцы XX стагоддзя гэтая імперыя зноў развалілася з-за тэорыі і практыкі няволі, жорсткасці і нахабства і няўмення гаспадарыць.

Ізноў многія пад відам славян хочуць загнаць нас у гэтую імперыю, заснаваную Чынгізханам.

Нічога не атрымаецца! Нават навука генэтыка працуе на Беларусь.

*14.01.2001 г.*

*А. Блінкоўскі*